Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

1 – 7 МАЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№18 (158)

## АДНА ЗЯМЛЯ

**ВІЛЕЙКА**

### Пладова-ягадны.

**Але не той, што вы падумалі**

ААТ Вілейскі гарадскі малаказавод асвоіў выпуск пладова-ягаднага ёгурту. У адрозненне ад многіх замежных аналагаў Вілейскі прадукт гатуецца без кансервантаў і значна таннейшы.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

**МАЛАДЗЕЧНА**

### Нестандартны сок

Сёлета мясцовы лясгас павінен быў паставіць харчкамбінату 50 тон бярозавага соку. Здаў толькі 8.

Нарыхтоўкай займалася брыгада на чале з **Уладзімірам Руновічам**. На плошчы ў 2 гектары сок збіралі ў поліэтыленавыя мяхі. На жаль, сёлетні "ўраджай" не ўсюды дасягаў стандартаў - у ім павінна быць 0,9% сухіх рэчываў. З-за адсутнасці гэтага амаль працэнта 5 "бракаваных" тон проста выліді.

*Вольга ПАСЛЕД.*

**АШМЯНЫ**

### Усё будзе мясцовым

Магчыма, што ў тутэйшых крамах будуць гандляваць толькі мясцовай прадукцыяй. Пачынаючы з пельменяў, пернікаў, пячэння і заканчваючы газіраванымі напоямі.

Для гэтых мэтаў ужо закупілі ў Ашмянскім камбінаце кааператыўнай прамысловасці спецыяльныя лініі па вытворчасці гэтай прадукцыі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

**ВІЛЕЙКА**

### Гарэлка абязболіла

З зенітаўскага інтэрната №1 "хуткая дапамога" забрала пенсіянера. Як потым высветлілася, ён тыдзень як зламаў нагу.

Урачы, суседзі здзіўленыя - хіба можа чалавек з такою траўмай 7 дзён лётаць па паверхах? Праўда, вядома, што пацыент - аматар выпіць, таму, відаць, алкаголь выступіў у ролі абязбольваючага.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

**СМАРГОНЬ**

### Перадавікі прыватызацыі

Летась з выстаўленых на таргі пяці аб'ектаў толькі на тры знайшліся ўласнікі.

Дзяржаўнае гандлёва-прамысловае прадпрыемства "Арго" разам з крэдыторскай запазычанасцю ў 700 мільёнаў рублёў перайшло да фірмы "БелОйл". Раённае аб'яднанне "Сельгасхімія" купілі работнікі. А вось мінскае ЗАТ "Марбо" раскашэлілася на былы ваенны гарадок "Шэматава" і цяпер плануе там стварыць дрэваапрацоўчы цэх.

- Прычына маруднай прыватызацыі хаваецца ў дарагоўлі аб'ектаў, - адказаў на пытанне "РГ" начальнік упраўлення па прыватызацыі выканкома **Дзмітрый Міхееў**. - Галаўны боль - былыя ваенныя гарадкі. Знайсці на іх пакупніка вельмі складана. Ужо ў сакавіку мы правялі першы сёлета аўкцыён, але запасны аэрадром і ваенны гарадок "Бялкоўшчына" так і не знайшлі сваіх уласнікаў. На наступным аўкцыёне першапачатковая цана на іх будзе зніжана на 20%, але наўрад ці гэта дасць станоўчыя вынікі.

Зазначу, што смаргонцы ў прыватызацыі з'яўляюцца перадавікамі, бо іх на аўкцыёне асноўная маса.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

**МАЛАДЗЕЧНА**

### Абарона спажыўцоў у лічбах

Таварыства абароны правоў спажыўцоў працуе нямногім больш за паўгода. Яго старшыня **Уладзімір Клешч** гаворыць, што за гэты час разгледжана 63 звароты і заявы. Дзесяткі спажыўцоў атрымалі кансультацыі па тэлефоне. З дапамогаю таварыства маладзечанцам вернуты ўрон на суму больш за 172 мільёны рублёў.

Акрамя гэтага абаронцы спажыўцоў дапамаглі падрыхтаваць два судовыя іскі, пасля якіх грамадзяне атрымалі назад свае 22 мільёны. Плюс столькі ж пайшло ў даход мясцовага бюджэту ў выглядзе штрафных санкцый. Плюс амаль 2 мільёны - дзяржпошліна ў даход дзяржавы.

На станаўленне таварыства мясцовы гарвыканком выдзяляў 5 мільёнаў, яшчэ 10 - райвыканком. Вярнулі гэтыя грошы, як відаць, з перавышэннем.

Крыху больш за 2 мільёны атрымала яно ад судовых іскаў, 3,6 мільёна - за юрыдычную дапамогу. За 8 месяцаў месяцаў работы 1 мільён зарплаты выплачаны старшыні, 2,5 - юрысту.

*Аддзел інфармацыі.*

**Куранец, дзе жыў Герой Савецкага Саюза былы партызан-падрыўнік Аляксандр Азончык, нараджае новых "герояў". Праўда, мэты сучасных дыверсантаў зусім іншыя**

## "Мы хацелі абчысціць трупы"

*ВІЛЕЙКА. Тры дзяўчынкі з Куранца вырашылі "зарабіць". Спачатку ўлезлі ў суседскі склеп. Але рабаванне не адбылося - злавілі. Потым нацягнулі на дарозе дрот, каб "скалупнуць" матацыкліста і абшукаць яго кішэні. Разарвала дрот машына. Тады непаўналетнія вырашылі пусціць з рэйкаў цягнік Мінск-Полацк і абабраць трупы. Маці адной з дзяўчынак параіла выкарыстаць "башмак", але на чыгунцы іх не знайшлі. Вярнуліся да маці, якая параіла перавесці стрэлку на пуцях. Па плану школьніц лакаматыў і два першых вагоны павінны былі ўзарвацца, астатнія легчы пад адхон.*

На раз'ездзе "Куранец - 630 кіламетр" увечары пачалася падрыхтоўка да дыверсіі. Стрэлку забілі жвірам, камянямі, зямлёю. Калі падышоў час, тая ад натугі завішчала, але не зварухнулася.

Дзяжурная па станцыі Вілейка дызель прапусціла, бо няспраўнасць не магла ўбачыць па тэхнічных прычынах. І толькі ў дыспетчара ў Мінску высвецілася на вялізным табло месца небяспекі. Трагедыі ўдалося пазбегнуць.

Няўдалыя тэрарысткі, на якіх школа дала добрыя характарыстыкі, трапілі пад "расстрэльны" артыкул (ці да 15 гадоў пазбаўлення волі). Следства вядзе абласная пракуратура на транспарце. Каментарый начальніка інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце **Уладзіміра Казлова**:

- Непаўналетнія часта сваімі ўчынкамі пагражаюць жыццю пасажыраў. Акрамя бадзяг, злодзеяў, п'яніц, наркаманаў, апошнім часам даводзіцца змагацца і з дыверсантамі. 11-12-гадовыя хлопцы з Княгініна, што на Мядзельшчыне, закідалі рэйкі камянямі. На перагоне Вілейка-Княгінін 17-гадовы жыхар вёскі Палікоўшчына з той жа Мядзельшчыны знёс




указальнік перагрэву. З-за гэтага цягнік падчас язды мог згубіць колы. Толькі ад пачатку года ў ІСН дастаўлена 54 чалавекі. Лідзіруюць маладзечанцы: вучні СШ №4 і навучэнцы ПТВ-42.

*Васіль САВІЦКІ.*

**КАДРЫ**

### Барыс Ельцын працаўладкуе былога вілейчаніна

*МАСКВА. Новым выканаўчым сакратаром СНД прызначаны Барыс Беразоўскі. Такое рашэнне было прынята 29 красавіка на пасяджэнні Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД.*

Як паведаміла БелаПАН інфармаваная крыніца, кандыдатуру Б. Беразоўскага на пасаду кіраўніка штаб-кватэры СНД прапанаваў прэзідэнт Украіны **Леанід Кучма**; яе падтрымалі ўсе ўдзельнікі сустрэчы. **Іван Каратчэня**, які ўзначальваў штаб-кватэру Садружнасці на працягу больш чым шасці гадоў, вызвалены ад займаемай пасады. На пасяджэнні ў Маскве старшыня Савета кіраўнікоў дзяржаў, прэзідэнт Расійскай Федэрацыі **Барыс Ельцын** адзначыў вялікія заслугі І. Каратчэні, яго дыпламатычныя і арганізатарскія здольнасці. Б. Ельцын паведаміў, што расійскі бок бярэ на сябе праблему працаўладкавання былога кіраўніка Выканаўчага сакратарыята і мае намер падшукаць яму пасаду, раўназначную ранейшай. Нагадаем, што Іван Каратчэня працаваў у свой час першым сакратаром Вілейскага ГК КПБ.

Пра вялікія заслугі Івана Каратчэні гаварыў і прэзідэнт Беларусі **Аляксандр Лукашэнка**, які, праўда, заўважыў, што не заўсёды знаходзіў агульную мову з былым выканаўчым сакратаром СНД, але затое заўсёды цаніў яго вопыт. А. Лукашэнка выказаўся за тое, каб І. Каратчэню была прапанаваная не раўназначная ранейшай, а, магчыма, і больш высокая пасада. Ён таксама падкрэсліў, што калі праблему працаўладкавання былога галоўнага чыноўніка СНД даручаць вырашаць Беларусі, то яна будзе вырашана найлепшым чынам.

*Паводле паведамлення БелаПАН.*

**АБСАЛЮТНА САКРЭТНА**

### Прэзідэнт раскрывае тайны

*ВІЛЕЙКА. Воінскую часць расійскіх узброеных сіл, што размясцілася пад Вілейкай, у рэгіёне ведаюць амаль усе. Аж за 20 кіламетраў можна ўбачыць вышкі ноччу, калі на іх запальваюць сігнальныя агні.*

Большасць з нас аб іх прызначэнні толькі здагадвалася, пакуль 25 красавіка ў праграме ОРТ "Время" прэзідэнт Беларусі **Аляксандр Лукашэнка**, адказваючы на пытанне расійскіх журналістаў аб лёсе расійскіх ваенных баз на Беларусі, не паведаміў, што пад Вілейкай размешчана часць, якая забяспечвае сувязь з падводнымі лодкамі ў Атлантыцы.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

**ФОТАМАДЭЛЬ РЭГІЁНА**



**Таццяна,** Маладзечна, СШ №11, 16 год, рост 167, вага 50.

- Захапляюся псіхалогіяй і філасофіяй. Лічу, што вучоба гэта не работа, а задавальненне. Каб гэта залежала ад мяне, то вучылася б усё сваё жыццё.

ФОТА СЯРГЕЯ ТАРЫМЫ

СТАРЫ АЛЬБОМ



1907 год. Вілейка. Яшчэ не ўзнёс свой шпіль над горадам статны касцёл, яшчэ далёка да перамен, якія прынёс з сабой семнаццаты год... На гэтым здымку беспамылкова ўгадваюцца чыгуначны вакзал і воданапорная вежа, якія і сёння маюць такія ж відарысы.

ФОТА З ФОНДАЎ ВІЛЕЙСКАГА ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ.

БУДАЎНІЧАЯ ПЛЯЦОЎКА

# Комсомольская площадь - коттеджей созвездье

*МАЛАДЗЕЧНА. Многім гараджанам знаёмая назва "Камсамольскі парк". Раней тут было месца адпачынку. Цяпер большую частку яго займае тэрыторыя, аддадзеная пад будаўніцтва жылых дамоў. Пераважна, катэджаў. Астатняе месца займае пасадка дрэў. Некаторыя з іх за доўгія гады сталі вялікімі і магутнымі.*





Але гэтая частка парку імкліва скарачаецца: жыхары навакольных вуліц высякаюць дрэвы толькі з адной мэтай - зрабіць на вызваленай зямлі агароды. Тэрыторыя ж, дзе стаяць катэджы, толькі часткова складаецца з жылых дамоў. Вялікая колькасць будынкаў закінутая. Часта можна бачыць аб'яву пра продаж дома ў раёне "Камсамольскага парку".

Але і прадаць іх не вельмі проста - цана вызначаецца ў лічбах з вялікай колькасцю нулёў. Будаўніцтва большасці распачалі ў часы "перабудовы", з вялікім размахам. Многія належаць вялікім і малым начальнікам. Грошай жа на завяршэнне работ часта не ставала. У выніку будаўніцтва замаруджвалася. Некаторыя дамы будаваліся за дзяржаўныя грошы і пасля праверак частку будоўляў "замарозілі".

Адныя будынiны гаспадары ўдала дабудоўваюць, іншыя закідваюць і прадаюць. Новыя гаспадары маюць тыя самыя праблемы. Хаця магчыма, што ў хуткім часе "Камсамольскі парк" стане "элітным раёнам" горада.

*Сяргей КАПЫЛОЎ.*

ФОТА АЎТАРА.

КУЛЬТУРА

## "Я ўзяўся дапамагаць маладым талентам - іх вельмі шмат"

ВІЛЕЙКА. Сёлета маладзёжны тэатр эстраднай песні "Землякі" будзе абараняць званне "народны".

Назву калектыву прыдумаў яго кіраўнік **Валерый Скаражонак.** Да яго прыйшла мясцовая творчая моладзь ад 14 да 25 гадоў: сёстры **Віка і Таня Чаўлыткі**, блізняты **Вольга і Аксана Яхімовіч, Аляксандр Майстровіч, Андрэй Зюлько, Таццяна Верачынская, Аня Юрчык, Святлана Валынец, Наталля Пятрашэвіч, Аляксандр Палядова, Святлана Цеушчакова, Крысціна Хадзько.** Паўтара года таму салістка тэатра **Таццяна Ліннік** атрымала званне Лаўрэата фестывалю "Тэлебом".

Сам Валерый Скаражонак з Вілейкі. Яшчэ школьнікам, у 1977, стаў лаўрэатам 1 рэспубліканскага тэлерадыёфестывалю "Чырвоныя гваздзікі". Працаваў у Гродзенскай філармоніі, у Рыжскім канцэртным аб'яднанні, дзяржаўным канцэртным аркестры РБ пад кіраўніцтвам **Міхаіла Фінберга.** Быў салістам Дзяржтэлерадыё РБ.

"Работа ў сталіцы - гэта добра, але ўвесь час хацеў стварыць нешта сваё", - гаворыць Валерый, - узяўся дапамагаць пачынаючым талентам, а іх аказалася вельмі шмат".

"Земляки" паступова ўзыходзяць на творчы "Алімп". З калектывам супрацоўнічаюць вядомыя кампазітары **Леанід Захлеўны, Уладзімір Буднік, Таццяна Моўчан.** З мясцовых - **Аляксандр Высоцкі і Ларыса Клімкіна.** Вялікія шоў-праграмы дапамагаюць ствараць шоў-група "Завал" і ансамбль танца "Карусель". На перспектыву тэатр песні планує работу з зоркамі беларускай эстрады. Спадзяемся, што падчас такіх сумесных праграм тэатр ужо будзе мець ганаровае званне. Пажадаем ім поспеху.

*Хрысціна ШЫМАКОЎСКАЯ, загадчыца аддзела культуры Вілейскага гарвыканкома.*

## Радаўніца - род памятай свой

*МАЛАДЗЕЧНА. Як і раней, на гарадскіх могілках і ў Лазаўцы родзічы памерлых прыводзілі ў парадак магілкі продкаў: падфарбоўвалі агароджы, мылі помнікі, садзілі кветкі, надмагілкавыя крыжы абвязвалі белымі ручнікамі, на іншыя вешалі невялікія вяночкі, зробленыя з яркіх штучных кветак.*



ФОТА IREX/PROMEDIA

Абедня пачалася амаль ад ранку. На магілкі клалі памінальныя стравы: мёд, тварог, бліны, кілбасы, пірагі, налівалі кілішкі гарэлкі, што мела значэнне ахвярапрынашэння. Усе спяшаліся задобрыць памерлых, каб хутчэй атрымаць спагаду да сябе.

Не чуваць было і святых песень. Яны будуць пазней - спачатку святыя, а затым любімыя творы жывых і памерлых.

Іншыя са сваякоў так і не змогуць развітацца, застануцца святкаваць на ўсю ноч на месцы спачывання родзічаў, бо цяпер на Радаўніцу на могілкі ідуць нярэдка "стапком, а назад - рачком".

*АЛЯКСАНДРА.*

## Маёр Мацкевіч з генераламі вітаецца за руку

СМАРГОНЬ. Два гады таму **Аляксандра Мацкевіча** прызначылі камандзірам часці СПА, што паблізу горада. Паколькі часць размяшчалася на месцы былой ракетнай, то клопатаў у камандзіра хапала. Давялося ўсё пачынаць з нуля - рамантаваць казармы, лрывodзіць у парадак матэрыяльна-тэхнічную базу. Цяпер часць лічыцца адной з лепшых.

Афіцэра ўзнагародзілі Ганаровай граматай, якую той атрымаў з рук міністра абароны **Чумакова.** Акрамя гэтага, маёр Мацкевіч (першым у рэгіёне) увайшоў у склад кансультацыйна-каардынацыйнага савета пры міністру абароны краіны.

*Альберт КУМІШЧА.*

ПУБЛІКАЦЫІ 40 ГАДОЎ

## Першая баразна

*40 год таму перадавы калгас Вілейшчыны "Рассвет", старшынёй праўлення якога быў Адольф Дзевяцень, змагаўся за атрыманне з кожнага гектара пасеваў аж па 11 цэнтнераў збожжавых і 130 - бульбы. Ад кожнай каровы жывёлаводы выращылі надаіць не менш за 1950 кілаграмаў малака. Абавязацельствы ж некаторых гаспадарак раўна былі куды ніжэйшымі.*

Тагачасная вясна была зацяжной, і ўсе спяшаліся. У вілейскай раённай газеце "За Савецкую Радзіму" (цяпер "Шлях перамогі") мой рэпартаж надрукавалі 25 красавіка 1958 года. Перачытваючы яго, часта ўспамінаю шчырых хлебаробаў, пра якіх пісаў. На жаль, большасці з іх ужо няма сярод нас. Але жывуць іх дзеці, унукі, праўнукі. Няхай яны даведаюцца пра тое, як самааддана працавалі на маладой калгаснай ніве іх бацькі, дзяды, прадзеды.

Даў я гэты матэрыял пад псеўданімам М. Гайдук, паколькі ў тым жа нумары быў надрукаваны яшчэ адзін мой матэрыял.

Прапаную чытачам "РГ" рэпартаж "Першая баразна" без правак ці скарачэнняў.

*Барыс МАНЦЭВІЧ, г. Беразіно.*

Нядзеля. Брыгадзір першай паляводчай брыгады калгаса "Рассвет" **Мікалай Уладзіміравіч Місюль** абышоў палі і хутка крочыў на калгасны двор. Па дарозе ён сустрэў маладога калгасніка **Івана Касяка.**

- У аўторак араць збірайся,- сказаў яму брыгадзір.

- Куды? - здзівіўся тав. Касяк.

- Мне здаецца, што можна будзе пачынаць выбарачнае ворыва ва ўрочышчы "Кадзела".

У хуткім часе Мікалай Уладзіміравіч паведаміў яшчэ пяці калгаснікам, якія павінны былі выехаць у поле. Ім доўга збірацца не прыйшлося. Усё загадзя было падрыхтавана. Кавалі **Іван Лях і Уладзімір Верамей** са сваімі падручнымі адрамантавалі ўсе плугі, бароны, сваімі рукамі зрабілі пяць барон "зігзаг".

У аўторак, 22 красавіка, аратыя сабраліся на двары. Састарэлы калгаснік тав. **Трубач**, які шматгадовы майстраваў з дошак, заўважыў:

- Калгас трактары свае набыў, а яны ўздумалі коньмі араць.

- Цяпер з трактарамі не ўсюды, дзядзька, уз'едзеш, а коньмі любы кавалак, які падсох, узараць можна, - не стрымаўся Пётр Касяк.

Калгаснікі ўзяліся за справу. Яшчэ раз агледзеўшы збрую, плугі і коней, брыгадзір звярнуўся да Пятра Касяка:

- Табе, Пятро, трэба плугі на поле завезці.

Вось і поле. Яшчэ ў кустах і нізінах снег, а ўзгорак ужо чакаў сваіх гаспадароў. Першым пракладвае баразну Іван Касяк, потым Пётр Касяк, далей **Сямён і Міхаіл Місюлі, Мікалай Рагач, Мікалай Сыракваш.**

Гадзіна, другая, трэцяя. Калі вячэрні змрок спускаўся на зямлю, аратыя выпрагалі коней і накіроўваліся ў вёску. За імі заставаўся першы гектар узаранай глебы.

- Добры авёс тут вырасце, - аглядаючы поле, радаваўся брыгадзір.

*М. ГАЙДУК.*

МЫ І НАШЫ ДЗЕЦІ

# Не бойцеся згубіць каханага



*Загадчыца жаночай кансультацыі Юэзфа Буйко.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

*МАЛАДЗЕЧНА. Ва ўсе часы бацькі па-старым глядзяць на новы свет, на новае пакаленне. Іх кансерватыўны, у нейкім сэнсе, погляд прымушае падлетка замкнуцца ў сабе ці шукаць паразумення на вуліцы. А дзеці, як магніт, дрэнныя звычкі прыцягваюць да сябе.*

Наша новае пакаленне стала больш свабодна паводзіць сябе ў сексуальных адносінах. Дзяўчаты і хлопцы, калі яны вядуць ранняе палавое жыццё, не саромеюцца пра гэта сказаць. Нярэдкімі становяцца выпадкі ранняга зацяжарвання, што адмоўна ўплывае на юны арганізм, які яшчэ не сфарміраваўся.

Загадчыца жаночай кансультацыі **Юэзфа Буйко** гаворыць, што ў такіх выпадках павышаецца пагроза па невыношанні, можа развіцца гістоз альбо таксікоз цяжарнай. Узнікае небяспека пасляродавых кровацячэнняў. Летась у горадзе праводзіўся прафілактычны агляд дзяўчынак-падлеткаў - выяўлена 27 выпадкаў паталогіі.

Ёсць згодныя на перарыванне цяжарнасці. Першая прычына заключаецца ў тым, што яны баяцца сваіх бацькоў - людзей, з якімі павінны параіцца, адкрыцца. Маркуюць, што іх не зразумеюць, будуць асуджаць. Па-другое, яны не менш баяцца страціць свайго каханага. За мінулы год з 630 абортаў 60 зрабілі жанчыны, якія яшчэ не нарадзілі. І ў большасці выпадкаў гэта падлеткі.

У апошні час з'явілася палажэнне аб перарыванні цяжарнасці да 22 тыдняў. А калі дзяўчына да гэтага часу не знайшла ў сабе сілы пайсці на такі крок, то яна кідае сваё дзіця, альбо адмаўляецца адразу ў роддоме. Хаця ў перыяд палавога сталення асбліва цяжка прымаць узважаныя рашэнні.

У жаночай кансультацыі горада існуе кабінет планавання сям'і. Тут маладых людзей знаёмяць са сродкамі кантрацэпцыі, вучаць іх прымяняць. Кансультацыю дае ўрач, можна ананімна. Правільнае іх выкарыстанне дапамагае пазбегнуць нежаданай цяжарнасці, многіх венерычных захворванняў.

Калі ў дзяўчат здараецца бяда, то бацькі павінны зразумець, дапамагчы знайсці правільнае значэнне. Не крычаць, не асуджаць - дзіця можа замкнуцца ў сабе і тады не спадзявайся на шчырасць, яно больш ніколі не падзеліцца з табой сваімі перажываннямі, трывогамі.

Цяпло і паразуменне, якія павінны былі даць бацькі, падлетак будзе шукаць на вуліцы, у кампаніі. І размовы пра шчаслівую сям'ю больш ніколі не адбудуцца.

*Аксана ЖУРАЎЛЁВА.*

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-17.*

## Калі мы будзем мець попыт на клеркаў?

***Галоўнае ўражанне, вынесенае аўтарам з паездкі, - як амерыканцы працуюць. Вышкаленасць, прафесіяналізм, свабодная (звычайна з жартамі) манера трымацца, гаварыць. Мы, мусіць, так не зможам ніколі. Абавязкова пацягне грубіць наведвальнікам, красці, "сачкаваць", прыпісваць (як сённяшніх чыноўнікаў). І да тэхнікі, абсталявання арганізацыі стаўленне ў нас традыцыйнае - як да калгаснага. Сцягнуць нешта, прыхаваць "для сябе" (працуем жа на дзяржаву) - нармальныя паводзіны нашага асаветызаванага грамадзяніна.***

У Дэ Мойне для адаптацыі імігрантаў створаны спецыяльны адукацыйны цэнтр. Ён арандуе дзевяць класаў-пакояў у шматпавярхоўцы мясцовай гарадской газеты.

У ім 13 чалавек і ўсяго адна жанчына мае паўстаўкі ("сумяшчальніца"), астатнія занятыя толькі ў цэнтры. Вучаць усяму; нават на тэлефанаванні адказваць (наша млявае "алё", а затым кінутая пасярэдзіне размовы трубка ў ЗША прывядзе да банальнага і неадкладнага звальнення з работы). Ва ўсякай канторы - ад мэрыі - любы клерк заўсёды ведае, што ён робіць, і добра пра гэта раскажа. Падчас нашага наведвання цэнтра студэнты або вучні, як іх называюць, нават без просьбы расказвалі пра тое, чым займаюцца.

Ёсць інструктар, які вучыць, як правільна прадставіць сябе, прайсці інтэрв'ю (гэта аналаг нашай гутаркі з наймальнікам і самая важная частка разгляду любой справы), скласці заяўку аб прыёме на работу.

Сярод тых, хто вывучае англійскую мову як другую, людзі з Афрыкі, Азіі. Сустрэлі двух беларусаў. Ёсць і мясцовыя - вучацца чытаць-пісаць.

Асобна існуе праграма для навучання рабоце з камп'ютэрам, якіх тут каля 50. За 6-8 тыдняў студэнты набываюць някепскія навыкі работы з "персаналкай"; у прыватнасці, могуць добра друкаваць. Дарэчы, звычайна клас тут разлічаны на 4 чалавекі. Плюс выкладчык, а то і два. Усюды зручныя офісныя фатэлі, крэслаў амаль няма. І скаргі на тое, што цэнтр не мае выхаду ў Internet.

Падрыхтоўка вядзецца да розных ступеняў - пачатковая, развіццёвая, "шліфоўка". Адпаведныя і патрабаванні да адзення, манер, звычак.

На складзе адзення прабывальнікі заўсёды могуць падабраць сабе сёе-тое. Гэта "second hand", але ў цэнтры ўжо адбіраюць (!) - далёка не ўсё прымаюць ад суграмадзянаў.

Вучням цэнтр дапамагае затым пры паступленні ў каледж (і пры яго выбары). Нагул, складваецца ўражанне, што людзей у пошуках работы водзяць за руку, падказваюць, куды пайсці і што сказаць. Бясплатна. Як сказаў адзін з маладзечанцаў, сацыялізму (у сэнсе клопату пра чалавека) тут болей, чым было калі-небудзь у нашай краіне.



Крытыя масты графства Мэдзісан - славутасць Аёвы. Іх шэсць. Некаторыя пабудавалі больш за сто год таму.

ФОТА АЎТАРА



Нават тэрмін існуе - людзі маральнай падтрымкі.

Двое былых студэнтаў сталі інструктарамі. **Цім** працуе 6 год, **Салі** - 4,5. Іх цэняць яшчэ і за тое, што работу і праблемы цэнтра яны ведаюць знутры.

Аналогія: нашы беспрацоўныя, што стаяць на ўліку ў цэнтры працаўладкавання, абавязаныя былі хадзіць па прадпрыемствах і засведчваць свае пошукі работы; у Дэ Мойне неабходна штотыдзень прыносіць выразкі з газет - з аб'явамі аб работах, якія б адпавядалі падрыхтоўцы кліента.

**Кейт Джоунс** займаецца так званымі грамадскімі паслугамі. Яна дапамагае студэнтам з транспартам, каб тыя маглі дабрацца на заняткі; пасядзіць падчас "урокаў" з дзецьмі; таксама яна адказвае за агульнае выхаванне - арганізаванасць, пунктуальнасць кліентаў.

- Вы рыхтуеце столькі сакратароў, клеркаў.

- Калі прыйдуць да вас страхавыя кампаніі - будзеце і вы мець попыт на сакратароў.

Праўда, Аёва **3-і буйнейшы Ў СВЕЦЕ** цэнтр страхавых кампаній.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 22.04 | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 29.04 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | адсутн. | **82,5** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 275 | **253,5** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 76,4 | **адсутн.** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 44,7 | **адсутн.** |
| Рыс | 1 кг | 23,1 | **28** |
| Цукар | 1 кг | адсутн. | **адсутн.** |
| Грэчка | 1 кг | 28,5 | **30** |
| Алей | 1 л | 58 | **60** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 23,9 | **23,9** |
| Маянэз | 250 г | 18 | **17** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 68 | **68** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 22 | **23** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 24 | **24** |
| Лімоны | 1кг | 60,7 | **60,2** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 28 | **28** |
| Масла | 1 кг | 75 | **80** |
| Тварог | 1 кг | 30 | **25** |
| Малако | 1 л | 9 | **8** |
| Бульба | вядро | 75 | **70** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 30 | **28** |

## На "Камароўцы"

МІНСК. На "Камароўцы" ёсць усё: індычка - 95000, кураняты - 73500, курыныя кумпячкі - 92000, печань курыная - 65500, страўнік курыны - 53400, шыйкі курыныя - 34500, лапкі курыныя - 22000 рублёў.

Цёплае надвор'е спрыяе росту грыбоў. Бабкі просяць за 5-літровае вядро страчкоў 100000 рублёў.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

ВАЛОЖЫН

## Аддзел адукацыі і маркі

Сумесную акцыю "Дзеці-сіроты" распачалі аддзел адукацыі і Хрысціянскі саюз маладых людзей Германіі з акругі Ліпэ. З нямецкага боку на акцыю выдаткавана 5,5 тыс. дойчмарак. Тры тысячы з гэтай сумы перададзена на рэканструкцыю Лоскай базавай школы, дзе мяркуецца стварыць установу новага тыпу - школу-дзіцячы садок для сацыяльных сірот з Валожыншчыны. Бо інтэрнатаўскія ўстановы вобласці перапоўненыя.

Астатнія маркі, 62 мільёны 500 тысяч у перакладзе на нашыя грошы, размеркаваныя па 49 апякунскіх сем'ях.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Міліцыянеры і кантралёры вінаватымі сябе не лічаць

***МАЛАДЗЕЧНА. У мінулым нумары мы пісалі пра выпадак пры праверцы кантралёрамі аўтобуса 11-га маршрута. Рэакцыя на гэтую публікацыю была розная. Старшыня гарадскога Савета Наталля Бялкова, напрыклад, абуралася фактам абнародавання газетай дакументаў дзяўчынкі. Гэтым самым была абураная і Маладзечанская міжрайпракуратура. Дэпутат Шлойда ўвогуле з'ехала адпачываць, відаць, забыўшыся, што абяцала даць газеце грунтоўную інфармацыю пра здарэнне. Выпадак не застаўся непрыкмечаным у Беларускім Хельсінкскім камітэце. Журналіст, сябра рады БХК А. МІКАЛАЙЧАНКА даслаў матэрыял, у якім тэма знайшла працяг. Улічваючы, што аб многім нашыя чытачы ведаюць з папярэдняй публікацыі, мы даем толькі некаторыя моманты матэрыялу нашага калегі.***

Пасля здарэння хвароба Тані абвастрылася. Некалькі дзён група дактароў з дзіцячай паліклінікі змагалася за жыццё дзяўчынкі. Цяпер яна не хоча бачыць гэтыя аўтобусы.

Кіраўнікі праваахоўчых арганізацый, аўтапарка №4 ад самага пачатку вырашылі не надаваць галоснасці прозвішчы вінаватых у гэтым дзікунстве. Іх не змог дазнацца нават дэпутат **Клешч**, якому як старшыні камісіі па законнасці, было даручана разабрацца ў гэтай справе. Не назвалі гэтыя прозвішчы ні міжрайпракурор, ні намеснік начальніка ГРАУС - бо не ведаюць. Але міжрайпракурор **Г. Вештарт** справядліва абураўся злоўжываннямі службовым становішчам міліцыянераў і кантралёраў.

Маці і дачцэ **Семашкевічам** днямі прынес свае прабачэнні нехта з кіраўніцтва аўтапарка, але свайго прозвішча не назваў. Тым не менш, Тамара Аляксееўна здолела ўстанавіць прозвішча міліцыянера **Чычэліса** і кантралёра **Малец.** Яна нават пагаварыла з імі. Аднак ніхто з іх сябе вінаватым не лічыў: маўляў, выконвалі службовыя абавязкі. Чаму такое выкананне ўвайшло ў супярэчнасць з Законам аб правах дзіцяці? З Дэкларацыяй аб правах Чалавека? Урэшце, ператварылася ў злоўжыванне службовымі абавязкамі? Гэта і хоча высветліць Тамара Семашкевіч, якая рыхтуецца падаваць у суд адпаведны іск супраць службоўцаў, што замахнуліся на здароўе, жыццё яе малалетняй дачкі.

*Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.*

***АД РЭДАКЦЫІ. Мы мусім паўтарыць, сказанае ў мінулым нумары: да адказнасці за дзікунства пакуль ніхто не прыцягнуты. Органы, якія павінны неадкладна ўмешвацца ў такія сітуацыі, пакуль адэкватна на здарэнне не адрэагавалі.***

ВАШ АДПАЧЫНАК

# Авіязавод рамантуе здароўе

***РАДАШКОВІЧЫ. Пра санаторый-прафілакторый "Зорны" што месціцца непадалёк ад гарпасёлка, нават на Маладзечаншчыне ведаюць адносна няшмат людзей. Прычына хаваецца ў падпарадкаванні ўстановы Мінскаму авіярамонтнаму заводу (гэта - яго структурнае падраздзяленне), які, у сваю чаргу, уваходзіць у аб'яднанне "Белавіярамонт". Мінулыя гады "Зорны" ў сваёй рабоце арыентаваўся на сталіцу.***

Апошнія гады адзначаны тут пастаянным прыездам на аздараўленне дзяцей з раёнаў, што пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

- Пра нас, сапраўды, ведаюць чамусьці нямногія,- гаворыць дырэктар санаторыя **Генадзь Пустаход**.- Усе рвуцца ў суседні Сасновы Бор, хаця мы прапануем пуцёўкі таннейшыя за іхнія - за 24 дні пры 6-разовым харчаванні плата складае 5,8 мільёна; умовы практычна аднолькавыя, а па некаторых паказчыках у нас нават лепей.

Штомесяц 150-200 дзяцей і дарослых папраўляюць тут здароўе. Школьнікі за 24 дні прабывання мяняюцца, ад'язджаць не хочуць.

Санаторый мае II катэгорыю, хаця яшчэ год таму яго ўзровень упэўнена і няўхільна паніжаўся.

Новы дырэктар перш-наперш узяўся за лячэбны конкурс - змяніліся працэдурныя кабінеты, практычна ўвесь медперсанал прайшоў курсы павышэння кваліфікацыі, многія набылі дадатковую спецыялізацыю.

Да прыкладу, намеснік дырэктара па лячэбнай рабоце **Мікалай Мяцеліца** прайшоў курсы іголкарэфлексатэрапіі, пад яго каардынацыяй абсталяваны адпаведны кабінет.

"Зорны" мае вялікую парасілавую гаспадарку, якая абаграе суседнія летнікі і "Сасновы Бор"; свая цяпліца рэгулярна выдае свежую зеляніну, памідоры; ад пачатку года ідзе пастаянная "сафра" па зборы вешанак.

### Медыцынай раней не займаліся

Добрае лячэнне атрымліваюць у санаторыі пацыенты з парушэннямі апорна-рухальнага апарата, з сардэчна-сасудзістымі захворваннямі. На жаль, падрабязна расказаць пра гэта немагчыма, хаця ўрач **Таццяна Бальшакова** знаёміла з самымі рознымі захворваннямі, якія тут можна пралячыць.

У "Зорным" праводзяць вельмі шмат працэдур - азакерыт, гразелячэнне, лазерная і фітатэрапія (экалагічна чыстыя зборы вязуць з Македоніі), лячэбныя ванны, гідрамасаж, разнастайныя інгаляцыі, гамеапатыя (спецыяльна купляюць лаванду, ментол, міндаль), спелеалячэнне.

Мінеральную ваду для лячэння калітаў, гастрытаў "Зорны" прывозіць спецыяльна. Хворыя, несумненна, ацэняць яе - "Вичелье".

Асаблівы гонар медыкаў - лячэбна-дыягнастычны апарат "Линтай-02". Беларуская, дарэчы, распрацоўка. Яго прызначэнне ў даклінічнай дыягностыцы органаў і функцыянальных сістэм чалавека; з дапамогай апарата праводзіцца ацэнка раней выяўленых змяненняў, эфектыўнасці аздараўлення і лячэння.

*"Камандаваць парадам буду я!" - Генадзь Пустаход ставіць справу ў "Зорным" на належны ўзровень. Па-за ўвагай дырэктара не застаецца нічога.*

ФОТА АЎТАРА.

– Наша кіраўніцтва дапамагае, не адмяжоўваецца ад нашых праблем,– Генадзь Пустаход пра будучыню гаворыць з аптымізмам.- Абсталяванне будзем браць лепшае.

Планы ў дырэктара вялікія. Ёсць задумка "апрануць" басейн, адрамантаваць з дзесятак нумароў на "супер-люкс", каб грошы для прафілакторыя зараблялі, бо "Зорны" ўваходзіць у адну сістэму з аэрапортамі "Мінск-1", "Мачулішчы" і пасажыры ў чаканні вылету частку сваіх грошай маглі б накіраваць на развіццё санаторыя.

### Эксперыменты з прапарваннем саломы

Пасля лячэбнага корпуса ініцыятыва адміністрацыі скіравалася і на гаспадарку. Правялі, у прыватнасці, новую цеплатрасу. Узяліся за асвойванне выпуску вешанак. Майстар гэтай вытворчасці **Генадзь Кручонак** сваю гаспадарку даглядае як дзяцей.. Нават салому для прыгатавання сілкавальнага асяродка грыбоў тут прапарваюць, каб не сыходзілі з яе пажыўныя рэчывы.

Вытворчасць чыста эксперыментальная, хаця ў будучым можна штомесяц мець да 4 тон грыбоў.

– Грыбы гэтыя трэба даглядаць круглыя суткі,- гаворыць Генадзь.- А загубіць іх можна за 2-3 гадзіны. Не хапае людзей на вытворчасць, патрэбныя сродкі.

Падалося дзіўным, што вытворцы вешанкі падпарадкоўваюцца не напрамую дырэктару санаторыя, а ўваходзяць у склад падсобнай гаспадаркі рэмзавода. Парушаецца часам элементарная каардынацыя дзеянняў, змяншаецца зацікаўленасць у выніках работы. Хаця гэта прыватнае меркаванне аўтара.

*Сямён ГУРСКІ.*

